СОНЦА:

Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.59, 16.48, 9.49;
Віцебск — 6.52, 16.35, 9.43;
Магілёў — 6.48, 16.37, 9.49;
Гомель — 6.44, 16.36, 9.52;
Гродна — 7.16, 17.02, 9.46;
Брэст — 7.10, 17.08, 9.58.

МЕСЯЦ:

Поўня 25 кастрычніка

# ЗВЯЗДА

27 КАСТРЫЧНІКА 1992 г. аўторак, № 217 (21995)

• выдаецца са жніўня 1917 г. • БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1 рубель

## РОЗГАЛАС

### БАЦЬКАЎШЧЫНА ПРЫМАЕ БЕЛАРУСАЎ

ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛАСЦЬ. (А. Дук). Як вядома, Беларусь з'яўляецца адной з найбольш стабільных рэспублік былога Саюза. Таму зразумела імкненне тых, хто жыве ў рэгіёнах з абвостранымі міжнацыянальнымі канфліктамі, пераехаць менавіта ў Беларусь. Так, у бягучым годзе толькі ў вобласць пераехала з Азербайджана 159 чалавек, Латвіі — 1.846, Літвы — 748, Эстоніі — 348, Таджыкістана — 109, Казахстана —204, Сухумі — 39, Малдовы — 84. Асноўная частка з 3.537 бежанцаў — беларусы, якія па розных прычынах вымушаны вярнуцца на Бацькаўшчыну.

### РЫНАК ПА-БАРАНАВІЦКУ

БАРАНАВІЧЫ. На баранавіцкім чыгуначным вакзале — перабудова. Закрываюцца медыцынскі пункт і пакой маці і дзіцяці. Але памяшканні пуставаць не будуць. У іх пераязджаюць камерсанты, якія ў хуткім часе, відаць, распачнуць тут бойкі гандаль.

Што ж, гарадскім уладам, мабыць, лепш бачна. Маці з дзіцем змогуць «перакантавацца» і ў зале чакання. А вось у рынак уваходзіць трэба. Праўда, ці такім шляхам?

### КАМЕРЦЫЙНАЯ НАДБАЎКА

Дадатковую імянную надбаўку ў размеры 1 тысячы рублёў штомесяц да асноўнай стыпендыі будуць атрымліваць пяцёра студэнтаў ад камерцыйнай фірмы «Унія», якую ўзначальвае былы выпускнік ВНУ У. Быкаў. Па ўмовах фірмы, акрамя выдатнай вучобы, імянныя стыпендыяты павінны былі мець схільнасць да прадпрымальніцкай і камерцыйнай дзейнасці, займаць актыўную жыццёвую пазіцыю.

### ХТО СТАНЕ ЧЭМПІЁНАМ ПА ТЭТРЫСУ?

Ідэя правядзення чэмпіянату па тэтрысу, пра які столькі шапталіся тэхнічныя інтэлігенты, ажыццёўлена: аргкамітэт Усесаюзных (?) дзён фізіка ўзваліў на сябе — і на сталіцу СНД таксама — ганаровую ношу арганізацыі першага міжнароднага турніру па гэтай мудрай камп'ютэрнай гульні. Умовы простыя і дэмакратычныя: любы жадаючы, заплаціўшы сімвалічны рэгістрацыйны ўзнос, зможа аспрэчваць чэмпіёнскі тытул у трох спробах, лепшая з якіх ідзе ў залік. Па выніках трох першых адборачных дзён (17—19 лістапада) фарміруецца шасцёрка фіналістаў. Імя першага афіцыяльнага чэмпіёна па тэтрысу вызначыцца 20 лістапада. Атрымаць больш падрабязную інфармацыю, а таксама прапанаваць свае паслугі ў якасці спонсара можна па тэл. 26-55-61.

РІД.

### ЭКСПЕРТЫ ЮНЕСКО ЗАДУМАЛІСЯ АБ ПРАБЛЕМАХ ЧАРНОБЫЛЯ

«Усе краіны нясуць сумесную адказнасць за прыняцце мер па барацьбе з вынікамі аварыі на ЧАЭС». Гэтая думка чырвонай ніткай праходзіць на міжнароднай рабочай нарадзе, якая адкрылася ўчора ў Мінску і працягнецца да 30 кастрычніка.

Яе арганізатары — Савет Міністраў, Акадэмія навук і Дзяржкамчарнобыль Рэспублікі Беларусь. Дырэктар Інстытута радыебіялогіі АН РБ акадэмік Я. Канапля адзначыў, што галоўнай мэтай міжнароднай сустрэчы з'яўляецца стварэнне ў рэспубліцы экалагічнай доследнай сеткі, якая ахапіла б асноўныя аспекты чарнобыльскай трагедыі, гэта значыць, праблемы радыеэкалогіі, медыкабіялагічныя, сельскагаспадарчыя і многія іншыя. Важна таксама прыцягнуць увагу міжнароднай навуковай грамадскасці да іх вырашэння.

У рабоце нарады прымаюць удзел эксперты ЮНЕСКО з многіх краін.

Іван КІСЕЛЬ.

### САРОКА ЗЛІТАВАЛАСЯ

Яшчэ б крыху — і без наручнага гадзінніка застаўся б жыхар Мінска Р., які выйшаў раніцай на балкон і пакінуў там свой гадзіннік маркі «Перамога», што служыў яму амаль 20 гадоў.

Праз некалькі хвілін ён вярнуўся, каб забраць пакінутае, але нічога там не знайшоў. Дамавы тут ні пры чым. На даху балкона прытаілася сарока, якая трымала ў дзюбе прапажу. Р. не прапаноўваў птушцы кавалак сыру. Ён толькі жаласна паглядзеў ёй у вочы і працягнуў да гадзінніка руку. Зладзейка злітавалася і, кінуўшы гадзіннік яго ўладальніку, знікла з вачэй.

### «ЗВЯЗДА» НАПЕРАДЗЕ

БАРАНАВІЧЫ. У Баранавічах людзі сталі, відаць, менш чытаць і пачалі выбіраць паміж хлебам і газетай. Калі на 1 студзеня 1992 года ў горадзе і раёне было выпісана 268.214 экзэмпляраў газет і часопісаў, то на 19 кастрычніка 1992 года — усяго 52.976 (не лічачы мясцовай газеты «Наш край»). Праўда, некаторыя выданні, а менавіта «Звязда», набралі больш падпісчыкаў у параўнанні з мінулым годам.

«Звязду» выпісалі 1.012 чалавек (у мінулым годзе—785). Прырост склаў 130 працэнтаў. Па ўсім відаць, народ стаў больш цікавіцца беларускай мовай і падзеямі, якія адбываюцца ў нашай рэспубліцы.

На вернасць Рэспубліцы Беларусь і яе народу прысягнулі 340 слухачоў Акадэміі міліцыі МУС Рэспублікі Беларусь. У іх ліку ўпершыню прыняты 150 выпускнікоў сярэдніх школ. Сярод залічаных на першы курс—27 дзяўчат.

НА ЗДЫМКУ: першакурсніка Акадэміі міліцыі Сяргея МІСЕЮКА прыехаў павіншаваць разам з бацькамі з г. Іванава Брэсцкай вобласці брат Саша.

Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА. [БЕЛІНФАРМ].

### З ЧАРГОВЫМ КАНЦОМ СВЕТУ ВАС, СПАДАРСТВА!

А мы думалі, што грамадства ў наш час могуць уразіць толькі дзве рэчы — падзешаўленне тавараў і прадуктаў і вестка аб тым, што Марысабель з'яўляецца пазашлюбнай дачкой Луіса Альберта. Аднак у апошнія тыдні ўсіх жыхароў Беларусі, незалежна ад партыйнасці, нацыянальнасці, судзімасці і зарплаты, ашаламіла навіна: «У сераду, 28 кастрычніка 1992 года прыйдзе канец свету». Выдалі гэты «перл» паўднёвакарэйскія місіянеры з евангелісцка-хрысціянскай царквы Дамі Сангэхе, якія, гастралюючы па СНД, не абмінулі сваёй увагай і нашу рэспубліку. Прычым навяўленыя «прарокі» паставілі справу на шырокую нагу, узмоцнена рэкламуючы незвычайную падзею ў друку, на якую «клюнулі» некаторыя выданні, у прыватнасці «Вячэрні Мінск» і «Рекламное приложение» да яго. Улічваючы цягу сучаснага грамадства да рэлігіі, паўднёвакарэйскія «настрадамусы» павярнулі справу так, што быццам канец свету прадказваўся ў Бібліі. Яны нават прапанавалі своеасаблівы «Божы план у Бібліі», у якім дакладна распланавалі будучыя падзеі.

1. 28.10.92. Узнясенне на нябёсы хрысціян.
2. Аб'яднанне еўрапейскіх краін.
3. З'яўленне Антыхрыста.
4. 7 гадоў бедства.
5. Ісус прыйдзе на Зямлю.
6. Тысячагадовае царства.
7. Суд Божы.
8. Рай і пекла.

Згодна з гэтымі «кастрычніцкімі тэзісамі» — прэзідэнтам Еўрапейскага Супольніцтва будзе Антыхрыст (а значыць, менавіта ад Антыхрыста мы будзем атрымліваць крэдыты). Не забыліся рэлігійныя махляры з Паўднёвай Карэі і пра тое, што зараз ідзе навукова-тэхнічная рэвалюцыя, прывязаўшы да канца свету лічбу 666, што існуе на тавараным кодзе любога прадукту. Па словах місіянераў, гэта знак д'ябла, і той, хто атрымае яго пасля 28 кастрычніка, трапіць у пекла.

**Каментарый для «Звязды» ўпаўнаважанага Савета па справах рэлігій пры Савеце Міністраў РБ Аляксея Жыльскага:**

**— Я стаўлюся да акцыі паўднёвакарэйскіх місіянераў вельмі адмоўна. Гэта не рэлігія, а проста нейкае шарлатанства. Яны нясуць, прабачце, нейкую ахінею і пры тым спасылаюцца на Біблію.**

Праваслаўная і каталіцкая царква Беларусі, вернікі іншых канфесій спрабуюць выкрыць усю неабгрунтаванасць і несур'ёзнасць вываду царквы Дамі Сангэхе аб будучым канцы свету.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### Аб ратыфікацыі Дагавора аб звычайных узброеных сілах у Еўропе ад 19 лістапада 1990 года і Пагаднення аб прынцыпах і парадку выканання гэтага Дагавора ад 15 мая 1992 года

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Ратыфікаваць Дагавор аб звычайных узброеных сілах у Еўропе ад 19 лістапада 1990 года разам з наступнымі пратаколамі:

аб існуючых тыпах звычайных узбраенняў і тэхнікі з дадаткам;

аб працэдурах, рэгулюючых перакласіфікацыю канкрэтных мадэлей або варыянтаў вучэбна-баявых самалётаў у няўзброеныя вучэбныя самалёты;

аб працэдурах, рэгулюючых скарачэнне звычайных узбраенняў і тэхнікі, якія абмяжоўваюцца Дагаворам аб звычайных узброеных сілах у Еўропе;

аб працэдурах, рэгулюючых класіфікацыю баявых верталётаў і перакласіфікацыю шматмэтавых ударных верталётаў;

аб паведамленнях і абмене інфармацыяй з дадаткам;

аб інспекцыях;

аб сумеснай кансультатыўнай групе;

аб часовым прымяненні некаторых палажэнняў Дагавора аб звычайных узброеных сілах у Еўропе.

2. Ратыфікаваць Пагадненне аб прынцыпах і парадку выканання Дагавора аб звычайных узброеных сілах у Еўропе ад 15 мая 1992 года разам з наступнымі пратаколамі:

аб максімальных узроўнях для наяўнасці звычайных узбраенняў і тэхнікі Азербайджанскай Рэспублікі, Рэспублікі Арменія, Рэспублікі Беларусь, Рэспублікі Казахстан, Рэспублікі Малдова, Расійскай Федэрацыі, Украіны і Рэспублікі Грузія ў сувязі з Дагаворам аб звычайных узброеных сілах у Еўропе;

аб звычайных узбраеннях і тэхніцы, якія адносяцца да катэгорый, абмяжоўваемых Дагаворам, і знаходзяцца ў сілах берагавой абароны, марской пяхоце і ракетных войсках стратэгічнага прызначэння;

аб танкавых мостаўкладчыках у рэгулярных часцях;

аб баявых верталётах МІ-24р і МІ-24к, якія не падпадаюць пад абмежаванне на ўдарныя верталёты.

3. Даручыць Міністэрству замежных спраў Рэспублікі Беларусь ажыццявіць неабходныя меры па выкананню гэтай Пастановы.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

21 кастрычніка 1992 г. г. Мінск.

## Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

### Аб пераводзе ваеннаслужачых — грамадзян Рэспублікі Беларусь і ваеннаслужачых, за якімі захоўваецца права на набыццё грамадзянства Рэспублікі Беларусь, з рэспублік Закаўказзя, Сярэдняй Азіі і Прыбалтыкі ва Узброеныя Сілы, Унутраныя і Пагранічныя войскі Рэспублікі Беларусь

У сувязі з абвастрэннем ваенна-палітычнай сітуацыі ў радзе рэспублік Закаўказзя і Сярэдняй Азіі Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Даручыць міністру абароны, міністру ўнутраных спраў і начальніку Галоўнага ўпраўлення Пагранічных войск пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь:

да 1 студзеня 1993 г. адклікаць з рэспублік Закаўказзя, Сярэдняй Азіі і Прыбалтыкі ваеннаслужачых — грамадзян Рэспублікі Беларусь, а таксама ваеннаслужачых, за якімі захоўваецца права на набыццё грамадзянства Рэспублікі Беларусь, што выказалі жаданне праходзіць службу ў яе Узброеных Сілах, Унутраных і Пагранічных войсках або звольніцца ў запас з іх радоў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь;

залічваць у распараджэнне адпаведных камандзіраў (начальнікаў) асоб афіцэрскага саставу, пераводзімых з названых рэспублік, для вырашэння ў магчыма кароткі тэрмін пытанняў іх далейшага службовага прызначэння з выплатай ім у перыяд да аднаго года грашовага забеспячэння па апошняй пасадзе, займаемай імі на ранейшым месцы службы, у размерах, устаноўленых ва Узброеных Сілах, Унутраных і Пагранічных войсках Рэспублікі Беларусь.

2. Устанавіць, што пераводзімым у рэспубліку ў адпаведнасці з гэтай пастановай ваеннаслужачым, якія маюць патрэбу ў жыллі, выдзяляюцца пазыкі на будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў або кватэр у дамах жыллёва-будаўнічых (жыллёвых) кааператываў на ўмовах, прадугледжаных пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 27 сакавіка 1992 г. № 165 «Аб першачарговых мерах па развіццю індывідуальнага і кааператыўнага жыллёвага будаўніцтва ва ўмовах пераходу да рыначнай эканомікі» (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 9 арт. 150), з пагашэннем часткі гэтых пазык за кошт сродкаў Міністэрства абароны. Размер пагашаемай Міністэрствам абароны пазыкі складае 50 працэнтаў каштарыснага кошту будаўніцтва жылля стандартнага ўзроўню, пры якім кошт аднаго квадратнага метра агульнай плошчы жылля вызначаецца зыходзячы з сярэдняга кошту яго, які складаецца па рэспубліцы пры будаўніцтве жылля за кошт дзяржаўных сродкаў, па норме забяспечанасці ім 18 кв. метраў агульнай плошчы на аднаго члена сям'і.

3. Міністэрству фінансаў па ўзгадненню з Міністэрствам абароны ў двухтыднёвы тэрмін вызначыць патрэбнасць у грашовых сродках на затраты па пераводу ў адпаведнасці з гэтай пастановай ваеннаслужачых з рэспублік Закаўказзя, Сярэдняй Азіі і Прыбалтыкі і выдзеліць крэдыты на гэтыя мэты.

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. КЕБІЧ.**

**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. КАЎКО.**

23 кастрычніка 1992 г. г. Мінск.

## Рэанімацыя КПБ: спроба рэваншу ці прапагандысцкае шоу?

**Як сенсацыю ўспрынялі сусветныя сродкі масавай інфармацыі рашэнне Вярхоўнага Савета Беларусі ўключыць у парадак дня сесіі пытанне аб адмене пастановы ад 25 жніўня 1991 года, якою прыпынена дзейнасць КПБ-КПСС і нацыяналізавана яе маёмасць.**

Нагадаем, прапанова разглядзець гэту праблему паступіла ад дэпутата М. Качана. Яе падтрымалі 187 парламентарыяў. Цікава, што ў спісе прагаласаваўшых «за» — не толькі былая партнаменклатура і ветэраны вайны. Пажадалі вярнуцца да абмеркавання лёсу кампартыі некаторыя члены апазіцыі БНФ — у прыватнасці, В. Зеленін, А. Паруль, П. Садоўскі, старшыні Пастаянных камісій Вярхоўнага Савета — Н. Гілевіч, Л. Козік, А. Кулічкоў, М. Слямнёў, І. Смоляр, Р. Унучка. Увогуле, у спісе—шмат дэпутатаў, за якімі за мінулыя гады трывала замацавалася рэпутацыя людзей, якія аддаюць перавагу дэмакратычным каштоўнасцям.

Дарэчы, газета «Свабода» ў пераліку прагаласаваўшых «за» ўказала і прозвішча каардынатара апазіцыі БНФ С. Навумчыка. Апублікаваны ёю спіс быў паказаны ў нядзельным выпуску расійскіх «Вестей». С. Навумчык растлумачыў, што яго прозвішча трапіла ў пералік праз непаразуменне, тэхнічную памылку. Пра гэта ім была пададзена ў Сакратарыят сесіі адпаведная заява. Адначасова каардынатар апазіцыі пашкадаваў, што галасаванне па гэтай прапанове адбылося—па настаянню старшыні — без папярэдняга абмеркавання. «Відаць, Шушкевіч палічыў пытанне настолькі відавочным, што інакш, як адмоўным, вынік галасавання, на яго думку, быць не мог»,—лічыць С. Навумчык.

Ці азначае нечаканы вынік галасавання тое, што многія дэмакратычна настроеныя дэпутаты змянілі свае адносіны да КПБ-КПСС? Зразумела, не. Хутчэй за ўсё, апазіцыя хоча лішні раз выкарыстаць трыбуну парламента для таго, каб пнуць звергнутага праціўніка, які ў апошні час усё часцей стаў узнімаць галаву. Відавочна, будуць названы новыя факты злачынстваў кампартыі, што сталі вядомыя за апошнія месяцы, дзякуючы працэсу ў Канстытуцыйным Судзе Расіі.

Аднак я асцярогся б назваць будучае абмеркаванне гэткім прапагандысцкім шоу з загадзя вядомым вынікам. Пункт аб адмене забароны на дзейнасць КПБ-КПСС значыцца ў парадку дня сесіі пад нумарам 87. Не менш як месяц давядзецца яму чакаць сваёй чаргі. Як будзе складвацца за гэты час палітычная сітуацыя ў Расіі? Чаго можна чакаць ад расійскага З'езда народных дэпутатаў, на якім апазіцыя разгорне барацьбу супраць Б. Ельцына і гайдараўскага ўрада? Патрасенні ў Маскве самым непасрэдным чынам будуць уплываць сярод іншага і на тое, які канчатковы прысуд вынесе наш ВС кампартыі.

У любым выпадку, незалежна ад рашэння Вярхоўнага Савета — рэанімацыя былой КПБ з яе неабмежаванай уладай немагчымая. Больш складана з партыйнай маёмасцю. Але і тут хутчэй за ўсё возьме верх разважны сэнс. Наўрад ці настальгія па мінулых часах будзе мацнейшай за рэальную пагрозу пакінуць наседжаныя месцы ў былым партыйным ЦК па вуліцы Карла Маркса.

**Валянцін ЖДАНКО.**



## РАДЫЁФАКТ

**У Мінску адкрыўся Польскі народны ўніверсітэт. Яго заснавальнікі — Польскае навуковае таварыства Беларусі і таварыства «Беларусь—Польшча».**

**Па задуме арганізатараў універсітэта на штомесячных семінарах будуць разглядацца пытанні гісторыі, культуры мовы і традыцый Польшчы. Удзел у іх змогуць прымаць не толькі палякі, але і ўсе, каго цікавіць мінулае і цяперашняе Польшчы, яе сувязі з Беларуссю.**

***

Паміж беларускім і польскім бакамі падпісана пагадненне аб арганізацыі на шэрагу пагранічных пераходаў сумеснага кантролю. Гэта значыць, што турысты, якія перасякаюць граніцу, будуць цяпер падвяргацца не двум, а толькі аднаму мытнаму дагляду. Усе восем кантрольных палос брэсцкага боку цяпер працуюць толькі на выезд з краіны. Прычым на абодвух пунктах польскія і беларускія мытнікі працуюць у адной «звязцы».

***

**У магазін з пашпартам зноў пачалі хадзіць жыхары Гродна. «Мы жывём зараз дзякуючы Беларусі, — шчыра прызналася карэспандэнту «Радыёфакта» прыезджая госця з Літвы. Я, — напрыклад, на гэты раз запаслася ў вас гадзіннікамі, электрычнымі пробкамі, шампунем, кансервамі, маслам, смятанай, каўбасой і нават купіла курыных горлаў для свайго сабакі. А вечар яшчэ далёка, і не ўсе магазіны я наведала».**

**Зразумела, тут ніякія пашпарты не ўратуюць. Але нейкае выйсце шукаць трэба. На гэты перыяд, няхай нават і нецывілізаванае.**

ПРЭМ'ЕРА РУБРЫКІ: «СВЕТ І БЕЛАРУСЬ»

**Старшыня Вялікага нацыянальнага сходу Турцыі Хюсаметцін ДЖЫНДАРУК:**

## «Галоўнае—устанаўленне дэмакратычных нормаў і прынцыпаў...»

**У турэцкім і міжнародным палітычным жыцці гэты чалавек — роўна сорак гадоў. Пачаўшы, як і большасць іншых ягоных калег, з удзелу ў маладзёжным руху сваёй краіны, Хюсаметцін Джындарук прайшоў багаты, напружаны і адказны палітычны шлях, змагаючыся і аддаючы сябе ўсяго, без астатку, сцвярджэнню ў жыцці прынцыпаў дэмакратыі, справядлівасці, цывілізаванага існавання людзей.**

**Партыя, якую сёння ўзначальвае спадар Джындарук, бадай, адзіная ў свеце з такой назвай — Партыя вернага шляху Турцыі. А аб тым, што яе курс адпавядае назве, найперш сведчыць знаходжанне лідэра партыі на высокім, ганаровым і адказным пасту Старшыні Вялікага нацыянальнага сходу гэтай цікавай і самабытнай краіны.**

— Я вельмі шкадую, што не ведаю вашай мовы, — прызнаўся Хюсаметцін Джындарук беларускім парламентарыям у час свайго выступлення ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь. — Але я думаю, што нас аб'ядноўвае многае, і гэтыя аб'ядноўваючыя моманты дапамогуць нам знайсці агульную мову разумення.

Пошукі гэтай мовы пачаліся сёлетнім летам, калі кіраўнік парламента Беларусі Станіслаў Шушкевіч быў запрошаны на святкаванне 72-й гадавіны Вялікага нацыянальнага сходу (меджлісу) Турцыі. «Я доўга прыходзіў у сябе, калі ўсвядоміў, што такое сучасная Турцыя, — прызнаўся Станіслаў Станіслававіч гасцям і нам, беларускім журналістам, на традыцыйнай прэс-канферэнцыі з нагоды візіту ў Беларусь турэцкай парламенцкай дэлегацыі. — І гэта нягледзячы на тое, што я доўга рыхтаваўся да той паездкі. Цяпер мы абмяняліся дэлегацыямі, вядзецца распрацоўка адпаведных эканамічных пагадненняў і, я думаю, што ў нас ёсць справы для абодвух бакоў. Ёсць і агульныя парламенцкія праблемы, на якія звярнуў увагу спадар Джындарук... Адным словам, спецыялісты працуюць, — падкрэсліў С. Шушкевіч, — а неўзабаве будуць і вынікі».

Турэцкія калегі-журналісты (а іх, не ў прыклад нам, у паездцы старшыні парламента было звыш дзесяці) не прамінулі даволі тактоўна пацікавіцца: ад чаго ж канкрэтна «прыходзіў у сябе» Станіслаў Шушкевіч? Нагадаўшы, што ён — чалавек шчыры і адкрыты, Станіслаў Станіслававіч тут жа пералічыў: яго ўразілі аэракасмічная прамысловасць Турцыі і тэмпы станаўлення яе; аб'ёмы вытворчасці прадукцыі; рэальная свецкасць дзяржавы; маштабы будаўніцтва жылля пры нескладаных дапаможных тэхнічных сродках...

Але мы, здаецца, пачынаем адхіляцца ад асноўнай тэмы гаворкі.

**«Якім жа бачыцца сённяшні свет шасцідзесяцігадоваму лідэру турэцкага меджліса? Якое месца ў гэтым свеце суверэннай Рэспублікі Беларусь?»** Адказваючы на гэтыя пытанні, Хюсаметцін Джындарук сказаў:

— На гістарычным шляху развіцця любой дзяржавы няма больш складанага этапу, чым перыяд рэфармацыі. І пакаленне, на долю якога выпадае гэты час, не самае, верагодна, шчаслівае. Яму ж выпадае столькі абавязкаў, яму належыць так многа зрабіць!..

Я памятаю, як у 1946 годзе, калі ўтварылася Арганізацыя Аб'яднаных Нацый, пасля нарады ў Сан-Францыска былі распрацаваны два буйныя праекты, што ставілі на мэце садзейнічанне развіццю такіх жа новых суверэнных дзяржаў, якой была тады і Турцыя. Гэтыя праекты называліся імёнамі двух знакамітых тагачасных дзеячаў Злучаных Штатаў — дактрына Трумэна і план Маршала. Думаю, што як у цэлым ААН, так і ўсім развітым еўрапейскім краінам, а таксама і ЗША, трэба сёння правесці такую ж работу, як і ў тыя часы, каб выйшаўшыя на арэну новыя краіны мелі такую ж падтрымку, якая была аказана нам.

Я добра разумею ўсе тыя праблемы, якія паўстаюць сёння перад новымі незалежнымі дзяржавамі ўсяго вашага рэгіёна, — працягваў госць з Турцыі. — Усе краіны, якія дасягнулі ўжо працвітання, дабрабыту сваіх народаў, стабільнасці ў эканамічным развіцці, павінны аб'яднаць свае намаганні на шляху аказання дапамогі гэтым новым краінам. Мая дзяржава гатова аказаць усялякае садзейнічанне на тым шляху. Але ж сіл адной Турцыі не хопіць, каб вырашыць усе праблемы, якія стаяць сёння перад вамі.

**— Што вы, спадар старшыня, маеце на ўвазе канкрэтна? Якімі б вы хацелі бачыць першыя практычныя крокі ў адносінах Рэспублікі Беларусь і Турцыі пасля аб'яўлення намі свайго суверэнітэту?**

— Развітыя ў эканамічным плане краіны павінны быць гатовы падзяліцца сваімі вопытам і набыткамі, сваёй высокай тэхналогіяй з новымі дзяржавамі, што становяцца на ўласныя ногі. Думаю, што Турцыя будзе адной з першых сярод іх. Мы гатовы працягнуць вам руку дапамогі.

Сёння мы з вялікім нецярпеннем чакаем прыбыцця ў нашу краіну пасла Рэспублікі Беларусь. Мы гатовы да адкрыцця консульства ў Турцыі. Па шэрагу напрамкаў эканамічнага і сацыяльнага жыцця рыхтуюцца сумесныя праекты, вы-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

**ДА КАНЦА ПАДПІСКІ ЗАСТАЛОСЯ 5 ДЗЁН. ІНДЭКС «ЗВЯЗДЫ» — 63850, ПАДПІСНАЯ ЦАНА НА ПАЎГОДА — 120 РУБЛЁЎ.**

# РОЗГАЛАС

## З ЧАРГОВЫМ КАНЦОМ СВЕТУ ВАС, СПАДАРСТВА!

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Аднак гэта не вельмі проста, бо падкія на сенсацыю людзі ўжо «знайшлі» шэраг пацвярджэнняў будучай катастрофы. Так, астролагі прадказваюць 28 кастрычніка вельмі дрэнныя біярытмы, астраномы нечакана «адшукалі» астэроід, які ў гэты дзень павінен сутыкнуцца з Зямлёй, і менавіта з гэтага дня гастролі па Беларусі пачынае сумна вядомая панк-жлоб-рок-група «Сектар Газа», песні якой усе нармальныя людзі лічаць д'ябальшчынай.

**Каментарый для «Звязды» старшыні Саюза баптыстаў Беларусі Івана Букатага:**

**— Ніякага канца свету 28 кастрычніка не будзе. У Бібліі пра гэта нічога не гаворыцца. Нават Хрыстос сказаў: «Ніхто не ведае, калі будзе прышэсце». Самае сумнае, што перад пачаткам сваёй акцыі паўднёвакарэйскія місіянеры не параіліся з рэлігійнымі дзеячамі.**

І сапраўды, выяўляюцца дзве смешныя рэчы, якія ўшчэнт разбіваюць страшэнныя прагнозы місіянераў, што выклікалі літаральна паніку ва ўсіх колах насельніцтва рэспублікі. Папершае, у Бібліі, на якую так любяць абапірацца «прарокі» з Азіі, пра канкрэтную дату канца свету не гаворыцца ні слова. Яны проста фальсіфікавалі кнігу, якая з'яўляецца свяшчэннай для ўсіх хрысціян. А, па-другое, такія «прадказанні» чуюцца ад розных рэлігійных «нефармалаў» па некалькі разоў на год. Так, напрыклад, адна з сектаў Масквы «намеціла» чарговы канец свету на 24 лістапада 1992 года. Падобныя «мерапрыемствы» сталі ўжо традыцыйнымі і служаць, як правіла, для рэкламы той альбо іншай рэлігійнай арганізацыі. Вядома, што ў Паўднёвай Карэі пасля пропаведзяў гэтых місіянераў людзі распрадавалі ўсю сваю маёмасць і куплялі «білеты ў рай». Напэўна, і жыхарам Мінска прапануюць гэтыя райскія «ваўчэры» на тусоўцы, прысвечанай канцу свету, якая пройдзе ў парку Горкага 28 кастрычніка.

Так што без панікі, паважанае спадарства. Пакуль жылі і жывуць шарлатаны, ці то ад рэлігіі, ці то ад палітыкі, ці ад эканомікі, нас заўсёды будзе трэсці ад навін, падобных на «канец свету 28 кастрычніка».

Ва ўсякім выпадку, калі да канца свету застаўся адзін дзень, дык да канца падпісной кампаніі — цэлых пяць. Гэта да таго, што калі вы падпішацеся на «Звязду», яна знойдзе вас і на тым свеце.

**Станіслаў СУЛКОЎСКІ.**

## Аб канверсуемасці беларускай журналістыкі

Дагавор аб сумесным выданні часопіса пад назвай «Белорусский деловой вестник» падпісалі Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт, Беларускі лінгвістычны ўніверсітэт, акцыянернае таварыства «НІК» і прэзідэнт амерыканскай кампаніі «Кімэ інтэрнэшнл трэйд кансультант» Вільямс Кімэ. Часопіс будзе выдавацца, друкавацца і распаўсюджвацца ў ЗША, а збор, падрыхтоўка і перадача інфармацыі будзе здзяйсняцца беларускім бокам. Прыбытак ад выдання сумеснага часопіса будзе дзяліцца паміж бакамі, якія падпісалі гэтае пагадненне, пароўну.

**Антаніна КУЧКО.**

## ГОРА-ЗЛОДЗЕЙ

**Інакш і не назавеш чалавека, які папаўся ва універмагу горада Іванава Брэсцкай вобласці. Днямі ён паспрабаваў вынесці з гэтага гандлёвага прадпрыемства чаравікі, схаваўшы іх пад верхняй вопраткай. Аднак работнікі прылаўка аказаліся пільнымі і затрымалі няўдалага злодзея. Самае смешнае, што мужчына сабраўся выкрасці абутак не толькі рознага размеру, але яшчэ і на адну нагу.**

## Нахабства — другое шчасце

**Галоўны заатэхнік саўгаса імя Кутузава Іван Іванавіч Гарбуноў здаў сваёй гаспадарцы цяля. Яго ацанілі ў 10.205 рублёў. Факт сам па сабе будзённы і нецікавы, калі б не адно «але»... Бычок, аказваецца, вырас на саўгаснай ферме, а заатэхнік, мякка кажучы, узяў яго дамоў. Крадзеж выявілі, на спецыяліста-выкрадальніка заведзена крымінальная справа. Вось такая «цялячая» гісторыя.**

● РАДЫЁПЕРАХВАТ

РАДЫЁ ПЕРАХВАТ

### «БІ-БІ-СІ»

Старшыня парламента Нахічэвані Г. Аліеў заявіў, што ўрад Азербайджана зрабіў няўдалую спробу скінуць яго з пасады. Аднак Народны фронт Азербайджана аспрэчвае гэта і сцвярджае, што Аліеў выдумляе з палітычнай мэтай.

**Урадавыя войскі аднавілі кантроль над важнымі аб'ектамі сталіцы Таджыкістана. У Душанбе ўведзена камендангцкая гадзіна, уначы чуліся стрэлы танкавых гармат. У час штурму сталіцы кулябскімі атрадамі загінулі сотні людзей.**

### «ГОЛАС АМЕРЫКІ»

Прэзідэнт Буш падпісаў закон аб дапамозе былым савецкім рэспублікам, згодна з якім павялічваецца ўклад ЗША ў развіццё рыначнай эканомікі краін СНД. Прамая дапамога ім будзе прадастаўлена ў суме 410 млн. долараў.

**М. Гарбачоў заявіў, што Буш папрасіў яго не прымаць усур'ёз яго словы аб тым, што Амерыка перамагла ў «халоднай вайне» без дапамогі іншых. Але Гарбачоў сцвярджае, што Буш памыляецца ў сваіх меркаваннях.**

### «НЯМЕЦКАЯ ХВАЛЯ»

У Літве былыя камуністы зноў выходзяць на палітычную арэну. Як паведаміў германскі даследчы інстытут, Дэмакратычную партыю працы, нашчадка КПСС, падтрымлівае каля 40 працэнтаў насельніцтва, а прыхільнікаў Ландсбергіса толькі 23 працэнты.

**Больш за тысячу ізраільцян на вуліцах Іерусаліма уступілі ў бойку з паліцыяй. Прычынай беспарадкаў стала забойства шасці ізраільцян у Паўднёвым Ліване. Яшчэ шэсць ізраільскіх салдат былі паранены.**

### РАДЫЁ «СВАБОДА»

Прэзідэнт Чэчні Д. Дудаеў даў інтэрв'ю карэспандэнту радыёстанцыі ў Мюнхене. Вось асобныя вытрымкі з гэтай амаль гадзіннай гутаркі. Па словах лідэра Чэчні, ён не ведае, што такое Савет Расійскай Федэрацыі і кім ён створаны. І здзівіўся, калі даведаўся, што ў састаў яго ўваходзіць Ельцын. Дудаеў сказаў, што Чэчня, нягледзячы на поўную блакаду з боку Расіі, жыве па сваіх законах і ніякіх сувязей паміж адміністрацыяй Расіі і кіраўніцтвам Чэчні няма ўжо больш года.

Дудаеў адзначыў станоўчую ролю Канфедэрацыі горскіх народаў, якая паставіла пытанне аб аднаўленні былых самастойных дзяржаў Каўказа, што былі скасаваны ў 1921 г. Цяпер настаў час аб'яднання дзяржаў і народаў Каўказа. Выбары ў Грузіі Дудаеў не прызнае, бо ў іх не прымалі ўдзел Абхазія, Аджарыя, Мінгрэлія, Паўднёвая Асеція. У выбарах, па словах Дудаева, прымалі ўдзел не больш як 12 працэнтаў насельніцтва Грузіі, а таму яны незаконныя. Яны — фарс. Таму ў Грузіі будзе нарастаць барацьба.

Аб зброі. Нярэдка ў рэстаранах Грознага наведвальнікі разам з паліто вешаюць аўтаматы. На думку Дудаева, зброя — гэта гарант бяспекі. Спрадвеку чэчэнцы насілі зброю, каб абараніць сябе. Цяпер у кожнага чэчэнца ёсць зброя, і гэта — гарант стабільнасці.

Вярхоўны Савет Расіі — гэта неправавы механізм. У Расіі няма ніякай улады, а ўраду там звязалі рукі, ногі, завязалі вочы і б'юць па галаве.

На погляд Дудаева, да ўлады зноў павінен прыйсці Гарбачоў, якому не далі ажыццявіць свае планы. Гэта самае лепшае, што магла б зрабіць Расія. А Вярхоўны Савет трэба распусціць, бо народ хутка пойдзе каменнем разбіваць галовы прадпрымальнікаў.

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ●

Выпуск «Розгаласа» падрыхтавалі: І. Карней, А. Коктыш, А. Сланеўскі, С. Сулкоўскі, І. Шчучэнка, У. Здановіч.

# «Галоўнае — устанаўленне дэмакратычных нормаў і прынцыпаў...»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

працоўка і падпісанне якіх, на маю думку, не зацягнецца. І яшчэ адна праблема: цяпер у Турцыі шмат бывае турыстаў з Беларусі, у будучым іх будзе яшчэ больш, і пакінуць іх сам-насам з праблемамі знаходжання ў нас таксама нельга...

Ідучы насустрач адзін аднаму, Турцыя і Беларусь павінны бліжэй ведаць адзін аднаго. Трэба ведаць як станоўчыя, так і адмоўныя бакі грамадстваў. І вось такія шчырыя і адкрытыя размовы, што мелі месца ў час нашага візіту да вас, і дапамогуць нам у збліжэнні.

**— Што, на вашу думку, спадар Джындарук, з'яўляецца сёння самым галоўным для Беларусі?**

— Двух дзён, якія я правёў у Беларусі, вядома, недастаткова, каб пазнаць краіну. Але ж мы шмат чытаем пра вашу рэспубліку, ды і спадар Шушкевіч у час візіту ў Турцыю шмат чаго расказваў пра яе. Так што ўяўленні аб тым, куды мы прыехалі, у нас ёсць. Галоўнае для вас сёння — устанаўленне дэмакратычных нормаў і прынцыпаў жыцця. Я прывяду тут паралель з нашай дзяржавай. Сёння Турцыя актыўна ідзе да ўсталявання моцнай дэмакратычнай структуры. Але зараз, бадай, нельга яшчэ гаварыць, што яна на сто працэнтаў ужо функцыяніруе. Аднак я ўпэўнены, што цяперашні склад турэцкага парламента ў стане давесці да канца тыя пераўтварэнні, якія б дазволілі называць Турцыю поўнасцю дэмакратычнай краінай. Па гэтаму пытанню ў нас поўная згода з усімі партыямі, што ўваходзяць у склад Вялікага нацыянальнага сходу, спрыяюць гэтаму і праекты дакументаў, падрыхтаваныя нашым урадам.

Не сумняваюся, што і Беларусь за кароткі час праявіць сябе, увальецца ў агульную сям'ю народаў свету, будзе мець свой моцны патэнцыял. Па шляху прагрэсу вы крочыце вялікімі тэмпамі. І на пасяджэнні вашага парламента, і зараз я хачу адзначыць: шлях, па якім ідзе Беларусь, няпросты, ён напоўнены цяжкасцямі, праблемамі. Аднак мэта, якая асвятляе гэты шлях, настолькі яркая, што няма сумнення ў поспеху пачатых спраў.

**— Дарэчы, якія вашы ўражанні аб рабоце беларускага парламента?**

— Я паназіраў, як вашы прадстаўнікі ў парламенце абмяркоўваюць праект новай Канстытуцыі Беларусі. Між іншым, гэта вельмі блізка мне і маім калегам: у нашай краіне да гэтага часу практычна на кожным пасяджэнні меджліса ідуць спрэчкі па тэксту Канстытуцыі. І гэта пры тым, што першая дэмакратычная Канстытуцыя Турцыі прынята ў 1921 годзе, і, як бачыце, да сённяшняга дня мы працуем над яе ўдасканаленнем.

**— Спадар Джындарук, а што вы можаце сказаць аб стане дэмакратыі ў свеце наогул?**

— Магчымасці дэмакратыі бязмежныя. Яна дапамагае ўмацаваць правы чалавека — чалавека, які з'яўляецца галоўнай асновай любога грамадства. Дэмакратычныя структуры даюць магчымасць развівацца больш дынамічна працвітанню і дабрабыту народаў. На працягу сарака гадоў я, як палітык, спрабаваў і спрабую ўнесці свой уклад у развіццё дэмакратыі ў Турцыі. На працягу іх я бачыў шмат поспехаў. Тым не менш, былі і няверныя крокі. У адным я пераканаўся цвёрда: калі вы шчыра, твар у твар, размаўляеце з народам, народ толькі дапамажа вам умацаваць дэмакратычныя структуры, якія і павінны ляжаць у аснове любога новага дзяржаўнага ўладкавання.

Турцыя адной з першых дзяржаў свету прызнала незалежнасць Рэспублікі Беларусь, накіравала сюды свайго пасла, — падкрэсліў Хюсаметцін Джындарук. — Мы самі яшчэ вельмі добра памятаем усе тыя праблемы, усе цяжкасці, якія адчувалі на першапачатковай стадыі станаўлення незалежнасці сваёй краіны. Нас збліжае не толькі наша мінулае. Нягледзячы на тое, што вы — на поўначы, а мы — на поўдні, мы разам з вамі можам пабудаваць і перакінуць мост у Еўропу.

**— Такім чынам, мост Турцыя — Беларусь пачынае дзейнічаць?..**

— Так, нам трэба больш ствараць сяброўскіх рабочых груп, наладжваць інтэнсіўныя сустрэчы — і не толькі на ўзроўні кіраўнікоў і членаў парламентаў; сумесна абмяркоўваць праекты канстытуцый; забяспечыць сістэматычную дзейнасць і абмен камп'ютэрнымі сістэмамі і багаццямі бібліятэк... Інакш кажучы, трэба найперш запоўніць вакуум інфармацыі, што існуе паміж дзвюма краінамі.

Думаючы аб пазітыўным заўтрашнім дні, — заначыў у заключэнне спадар Джындарук, — мы павінны найперш думаць аб дабрабыце свайго народа. Калі народ бачыць аддачу ад свайго ўрада, калі ён бачыць актыўныя крокі яго, вынікі дзейнасці — народ будзе падтрымліваць кіраўніцтва...

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

ПРАГНОЗ

# Бывай, рублёвая прастора?

Здаецца, зусім хутка так званая «рублёвая зона» спыніць сваё існаванне. Краіны Балтыі, Азербайджан і Украіна фактычна ўжо выйшлі з яе. Актыўна рыхтуецца да гэтага і наша рэспубліка. Нацыянальная валюта — беларускі рубель — ужо аддрукавана ў Германіі і дастаўлена заказчыку. Заключаны прынцыповыя пагадненні з шэрагам заходніх фінансавых арганізацый аб прадастаўленні беларускіх сродкаў для арганізацыі свайго фонду стабілізацыі нацыянальнай валюты.

Выступаючы нядаўна на адной з прэс-канферэнцый, Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч заявіў, што адзіным фактарам, які стрымлівае ўвядзенне беларускіх грошай, з'яўляецца агульнае зніжэнне ўзроўню прамысловай вытворчасці ў рэспубліцы. С. Шушкевіч даў зразумець: калі гэты ўзровень удасца стабілізаваць, ён пагодзіцца з выхадам Беларусі з «рублёвай прасторы».

«Беларусь выштурхоўваюць з рублёвай зоны»,— сказаў кіраўнік парламента. Ён лічыць, што перш за ўсё гэтага дабіваецца Расія, прадпрыемствы і арганізацыі якой, як правіла, не выконваюць сваіх плацежных абавязацельстваў і арыентуюцца пераважна на клірынг. Савецкі рубель сёння фактычна ўжо не з'яўляецца плацежным сродкам унутры СНД, адзначыў Старшыня Вярхоўнага Савета.

Разам з тым і ён, і прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч выступаюць за захаванне адзінай «рублёвай прасторы».

А між тым, разліковыя білеты Нацыянальнага банка Беларусі, празваныя ў народзе «зайчыкамі», пачынаюць выцясняць савецкі рубель з грашовага рынку рэспублікі. У Брэсцкай і Гродзенскай абласцях афіцыяльным рашэннем улад уведзены абмежаванні на хаджэнне савецкіх грошай. Прадукты харчавання, напрыклад, а таксама некаторыя прамысловыя тавары там цяпер прадаюцца толькі за «зайчыкі». Зарплата і іншыя выплаты мясцовым жыхарам выдаюцца толькі разліковымі білетамі. Кіраўнікі абласцей матывуюць свае дзеянні неабходнасцю абараніць спажывецкі рынак ад наплыву перакупшчыкаў з суседніх дзяржаў. Не выключана, што ўжо ў самы бліжэйшы час прыклад Брэсцкай і Гродзенскай абласцей пяройдуць і астатнія рэгіёны Беларусі. Адказваючы нядаўна на пытанні дэпутатаў, прэм'ер-міністр у парламенце заявіў аб намерах урада перавесці продаж дацыруемых з дзяржбюджэту прадуктаў харчавання і вырабаў прамысловасці выключна за разліковыя білеты Нацыянальнага банка Беларусі. Відаць, кіраўніцтва рэспублікі імкнецца яшчэ да ўвядзення нацыянальнай валюты выключыць з абароту савецкі рубель. Навошта? Хоць бы для таго, каб абараніць унутраны рынак ад чакаемага прытоку рублёвай масы з Украіны.

Сустракаючыся ў Мінску з ветэранамі вайны і працы, прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч расказаў аб размове па тэлефоне з выконваючым абавязкі кіраўніка ўрада Расіі Ягорам Гайдарам. Потым прыйшло паведамленне, што быццам бы Я. Гайдар яму даў зразумець: у Крамлі ўсур'ёз думаюць друкаваць расійскую валюту. Гэта паведамленне па каналах інфармацыйных агенцтваў імгненна абляцела ўвесь свет, але было абвергнута прэс-службай урада Расіі. Праз некалькі дзён беларускі прэм'ер на прэс-канферэнцыі ў Мінску спаслаўся на тое, што яго словы былі вытлумачаны недакладна.

Калі прыслухацца да народнай мудрасці — «няма дыму без агню», — можна дапусціць, што лідэры шэрагу дзяржаў СНД дамовіліся ўвесці свае нацыянальныя грашовыя адзінкі. Але што ў гэтым выпадку стане з савецкім рублём? Ці будзе ён поўнасцю выведзены з абароту, або ператворыцца ў плацежны сродак унутры СНД накшталт еўрапейскага экю? «Экюізацыя» савецкай грашовай адзінкі, відаць, акажацца непатрэбнай, бо разлікі паміж дзяржавамі больш надзейна праводзіць, арыентуючыся на куды больш аўтарытэтны долар ЗША. А на ліквідацыі савецкага рубля як дзеючай грашовай адзінкі можна зарабіць пэўны палітычны капітал. Ненавісныя шырокім народным масам дзялкі ценявой эканомікі, якія захоўваюць па засеках дзесяткі мільёнаў наяўных рублёў, імгненна акажуцца ля разбітага карыта. Мяшкі несапраўдных грошай можна будзе выкарыстаць толькі для распальвання печы. Многім стомленым ад цяжкасцей і галечы «пераходнага перыяду» бясрэбранікам гэта спадабаецца. Ды і ў палку атрыбутаў дзяржаўнасці кожнай краіны будзе папаўненне — свая нацыянальная валюта.

**Людміла ЛАЗОВІК, аглядальнік «Звязды».**

КРЫМІНАЛ

# Каляровы метал: афера за аферай

**«Звязда» ўжо неаднойчы паведамляла аб аферах, звязаных з каляровым металам. На якія толькі хітрыкі не ідуць дзялкі, каб незаконна пераправіць гэты дэфіцыт праз тэрыторыю нашай рэспублікі!**

...Супрацоўнікі ўпраўлення КДБ па Гродзенскай вобласці атрымалі інфармацыю аб тым, што адбываецца каля аднаго з транспартных прадпрыемстваў абласнога цэнтра. На першы погляд, нічога надзвычайнага: каляровы метал перагружаўся з адной машыны ў другую. Аднак справа ў тым, што абодва аўтамабілі былі з... прыбалтыйскімі нумарамі. Яшчэ адна машына (таксама з Прыбалтыкі) да таго часу ўжо загрузілася металам і накіравалася ў бок Брэста.

Вось што высветлілася ў працэсе праверкі. Аказваецца, каштоўны груз быў адпраўлены з Екацярынбурга ў адрас мінскага прадпрыемства «Рубін», на што і была выдадзена ліцэнзія. Далей гэты метал у «Рубіна» перакупіла літоўскае закрытае акцыянернае таварыства «Літа», каб пераправіць яго ў Германію. У гэтых мэтах «Літа» зафрахтавала два вялікагрузныя аўтамабілі. У Каўнасе на іх афармляюцца адпаведныя дакументы, яны пламбуюцца літоўскай мытняй і паражняком перасякаюць літоўска-беларускую граніцу, быццам загружаныя каляровым металам. Потым інспектар мытнай службы Літвы Вілюс Каўпнас прыбывае ў Гродна. Меркавалася, што пасля сапраўднай загрузкі гэтых машын металам ён зноў іх апламбуе, і ў выніку аўтамабілі накіруюцца за мяжу быццам з Літвы.

На шчасце, афера пацярпела крах. Абедзве машыны былі затрыманы, 25.503 кілаграмы металу канфіскаваны ў судовым парадку ў даход вобласці. Арганізатар незаконнай здзелкі— намеснік дырэктара акцыянернага таварыства «Літа» Гедрус Клусіс аштрафаваны на 10 тысяч рублёў.

Або яшчэ. Нядаўна ў адрас гродзенскага вытворчага аб'яднання «Азот» ад саратаўскага прадпрыемства «Поўдзеньтрансгаз» паступілі 7 вагонаў з 427 тонамі латуні на падставе заключанага дагавора. Але гэты дакумент (у якім, дарэчы, гаворка ішла не пра латунь, а пра другасную сыравіну) аказаўся фіктыўным, паколькі ні ў Гродна, ні ў Саратаве арыгінал дагавора знайсці не ўдалося. А паколькі ні адпраўнік, ні атрымальнік грузу не ўстаноўлены, транспартная пракуратура яго затрымала. І вось тут свае правы на метал пачала даказваць... адна з літоўскіх будаўніча-акцыянерных фірмаў.

Дзіўная гісторыя здарылася і ў Лідзе, куды з Екацярынбурга прыбылі тры вагоны медзі ў злітках (усяго 204 тоны) для мясцовай фірмы «Полюс», размешчанай па вуліцы Гедыміна, 31. Усё быццам як і трэба, за выключэннем «дробязі»: ні такой фірмы, ні вуліцы з такой назвай у горадзе няма. Праўда, праз некалькі дзён у Лідзе ўсё ж з'явіліся прадстаўнікі «Полюса» (фірма мае літоўскае паходжанне), якіх затрымалі пры спробе вывезці атрыманы з Екацярынбурга метал у Літву.

Між іншым, некаторыя аферы літоўцы ажыццяўляюць дзякуючы цеснаму «супрацоўніцтву» з жыхарамі нашай рэспублікі. Напрыклад, у канцы верасня на тэрыторыі Астравецкага раёна была затрымана аўтамашына з 9 тонамі алюмініевых труб, якія спрабавала незаконна вывезці ў Літву магілёўскае МП «Рэкорд». А на лясной дарозе непадалёк ад літоўска-беларускай мяжы ў Воранаўскім раёне затрымалі машыну з меддзю. Аказалася, што спачатку пад выглядам вырабаў з чорных металаў груз паступіў з Брацка на Ваўкавыскі завод ліцейнага абсталявання, а потым пад кіраўніцтвам галоўнага інжынера гэтага прадпрыемства павінен быў перакачаваць у Вільнюс, у літоўска-шведскае таварыства «Элга». Дарэчы, як потым стала вядома, гэты метал у Брацку быў украдзены.

Дзякуючы намаганням супрацоўнікаў КДБ і міліцыі на шляху многіх афер ставіцца заслона. Але, як кажуць, няма роду без выроду. Нядаўна арыштаваны тры работнікі міліцыі, якія дзяжурылі на трасе Мінск—Вільнюс у Смаргонскім раёне. Атрымліваючы салідны «ганарар», у тым ліку і ў валюце, яны не «заўважалі» аўтамашын, на якіх у Літву вывозіліся дэфіцытныя тавары. Смаргонская пракуратура ўзбудзіла супраць хабарнікаў крымінальную справу.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# Беларусь наперадзе. Ці ў радасць гэта?..

**Працягвае ліхаманіць валютныя рынкі дзяржаў Садружнасці і суседніх краін. Па стану на мінулы тыдзень курс замежных грошавых адзінак быў такі (першая лічба — купля, другая—продаж):**

| | Эстонскі крэдытны банк (да кроны) | «Ahals» — Рыга (да латв. рублiса) | Банк «Zitimpex» — Вільнюс (да літ. талона) | «Прамбудбанк» — С.-Пецярбург (да рас. рубля) | «Прыорбанк» — Мінск |
|---|---|---|---|---|---|
| Долар ЗША | 11,87—12.83 | 173—184 | 247—257 | 280—308 | 310—339 |
| Марка ФРГ | 8—8,3 | 117—125 | 163—172 | 186—215,6 | 215—230 |
| Фінская марка | 2.42—2.55 | 32—39 | 50.60—52.60 | 58—63.80 | 60.00— |
| Канадскі долар | 9.26—9.64 | 120—148 | 182.0—189.1 | 215—236 | 240— |

**Такім чынам, курс валют у Беларусі застаецца найбольш высокім і працягвае расці. Прычыны вядомыя, мы аб іх ужо пісалі, —пазбаўляюцца ад рублёў Украіна, Літва. У прыбалтыйскіх жа дзяржавах з увядзеннем уласнай валюты ці яе часовага замяняльніка курс даволі стабільны. Найбольш цвёрда трымаецца эстонская крона. Вядома, эканамічныя цяжкасці гэтая краіна зведвае не менш, чым мы. Эстонію выручае пакуль Міжнародны валютны фонд. Латвія выпусціла 117 млрд. рублісаў, і гэтая колькасць іх, як паведаміла «Балтийская газета», з'яўляецца пастаяннай з пачатку эканамічнай рэформы — на працягу больш чым трох месяцаў.**

# ЧАС ЛІЧЫЦЬ «КУРАНЯТ»

## ФУТБОЛ

Першы этап другога нацыянальнага чэмпіяната Рэспублікі Беларусь па футболу выйшаў на фінішную прамую. У наступныя суботу і нядзелю каманды-ўдзельніцы правядуць апошні тур першага круга, а арганізатары аб'яваць перапынак да вясны-93. Будзе час і магчымасць ўзважыць набыткі, прааналізаваць пралікі і ўпушчэнні і ў саміх футбалістаў, і ў трэнераў, і ў спецыялістаў, і, натуральна, у нас... А пакуль што — аб выніках перадапошняга тура спаборніцтваў.

Так ужо распарадзіўся расклад чэмпіяната, што ў двух матчах, што прайшлі ў мінулую суботу, сустрэліся старыя сябры-сапернікі — віцебскі «КІМ» з магілёўскім «Дняпром» і гродзенскі «Хімік» — з брэсцкім «Дынама». Яшчэ зусім нядаўна яны высвятлялі адносіны ў другой лізе першынства былога Саюза ССР, а сёння — раўназначныя і паўнапраўныя ўдзельнікі нацыянальнага чэмпіяната сваёй рэспублікі. І, трэба сказаць, што як у падборы футбалістаў, так і ў тактыцы гульні калектывы практычна аднолькавыя. Ці не пагэтаму перад паядынкамі іх мала хто рызыкаваў выказваць прагноз: мяч жа, як вядома, круглы...

Аднак нічога незвычайнага не адбылося: як і належыць гаспадарам, «КІМ» і «Хімік» атрымалі перамогі. І гэтыя ачкі вельмі істотна «адкарэкціравалі» турнірную табліцу.

Да паездкі ў Віцебск «Днепр» сем тураў не ведаў горычы паражэнняў. Але, «не прыняўшы» гэта пад увагу, віцябляне літаральна накаўціравалі свайго саперніка. Сяргей Вехцеў і Вадзім Карцаў у першым тайме і той жа Вехцеў пасля перапынку тройчы прымусілі магіляўчан пачынаць з цэнтра поля. І толькі за дзве мінуты да фінальнай сірэны лідэр атак «Дняпра» Андрэй Скарабагацька з пенальці адквітаў адзін мяч. 1:3 — так футбалісты з Магілёва не прайгравалі даўно ўжо.

А вось паядынак у Гродна быў больш роўным. Толькі аднойчы — на 30-й мінуце аднаму з гаспадароў — паўабаронцу Паўлу Бацюце — удалося забіць гол. Але і 1:0 — перамога, прычым важкая, патрэбная... Не паскупіліся адзначыць яе і кіраўнікі гарадскіх улад горада над Нёманам: пасля матча лепшым ігракам «Хіміка» Юрыю Мазурчыку і Віктару Юйко яны ўручылі прызы — каляровыя тэлевізары!

І яшчэ некалькі падрабязней пра адну сустрэчу з гэтага тура. Мінскія дынамаўцы — лідэры сезона-92, каб не ганьбіць сваё рэнаме, схаваліся ад нешматлікіх сваіх прыхільнікаў, што апошнім часам усё ж прыходзілі на галоўную спартыўную арэну сталіцы, у... Стайкі. 100 найбольш настырных прыхільнікаў «знайшлі» іх і там, аднак асалоды ад гульні не атрымалі. Усяго адзін гол (ды і той з пенальці) прынёс дынамаўцам сціплую перамогу над адным з аўтсайдэраў чэмпіяната — віцебскім СКБ «Лакаматыў».

Іншыя вынікі — наступныя: «Тарпеда» (Магілёў) — «Тарпеда» (Мінск) — 3:1, «Ведрыч»—«Беларусь» — 2:2, «Металург»—«Гомсельмаш»—0:1, «Шахцёр» — «Будаўнік» — 0:0, «Абутнік» — «БелАЗ» — 2:1.

Перад апошнім фінішным рыўком турнірная табліца мае такі выгляд:

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама (Мн) | 15 | 13 | 2 | 0 | 39— 7 | 28 |
| Беларусь | 15 | 9 | 3 | 3 | 25—12 | 21 |
| КІМ | 14 | 7 | 5 | 2 | 18— 8 | 19 |
| Хімік | 15 | 7 | 5 | 3 | 14—15 | 19 |
| Тарпеда (Мг) | 15 | 6 | 7 | 2 | 21—10 | 19 |
| Днепр | 15 | 7 | 4 | 4 | 21—16 | 18 |
| Дынама (Бр) | 15 | 7 | 4 | 4 | 18—10 | 18 |
| Шахцёр | 15 | 6 | 4 | 5 | 12—15 | 16 |
| Трактар | 15 | 5 | 6 | 4 | 12— 6 | 16 |
| Тарпеда (Мн) | 15 | 3 | 7 | 5 | 15—18 | 13 |
| Гомсельмаш | 14 | 4 | 4 | 6 | 9 —15 | 12 |
| Металург | 16 | 4 | 3 | 9 | 17—25 | 11 |
| Будаўнік | 14 | 4 | 3 | 7 | 8 —13 | 11 |
| Ведрыч | 14 | 3 | 5 | 6 | 13—20 | 11 |
| Лакаматыў | 15 | 2 | 5 | 8 | 15—23 | 9 |
| Абутнік | 15 | 2 | 3 | 10 | 9 —25 | 7 |
| БелАЗ | 15 | 1 | 2 | 12 | 9 —37 | 4 |

Сярод бамбардзіраў наперадзе Уладзімір Каваленя («Шахцёр») — 8 мячоў. На рахунках Сяргея Бараноўскага («Дынама» Мн), Юрыя Мазурчыка («Хімік»), Алега Пуцілы («Беларусь») і Андрэя Скарабагацькі («Днепр») — па 7.

СКАНДАЛЫ

# СЯМ'Я — ІНСТЫТУТ СВЯШЧЭННЫ. У ГАНДЛІ ТЫМ БОЛЬШ

Агульнавядома, што цешчу і зяця вельмі часта звязваюць не самыя лепшыя адносіны. Напэўна, сярэднестатыстычная цешча проста па прыродзе сваёй не здольная аб'ектыўна ацаніць плюсы свайго зяця і таму ўсяляк перабольшвае яго мінусы. Неаднойчы менавіта цешчы сталі прычынай развалу маладых сем'яў. Відаць, таксама па прычыне сваёй біялагічнай будовы. Раззлаваныя зяці склалі пра цешчу такую процьму анекдотаў, што па колькасці з імі можа спаборнічаць хіба толькі стары цыкл пра небараку Васіля Іванавіча з Пецькам. Цешчы, у сваю чаргу, адказваюць з'едлівымі прымаўкамі накшталт «Зяць любіць узяць».

Але ёсць і шчаслівыя выключэнні. Трапляюцца (як выйгрыш у латарэі) цешчы, якія ставяцца да зяцёў бы родныя маці — аддана і клапатліва...

Напэўна, кожны ведае ў Мінску магазін «Богатырь» па вуліцы Прытыцкага. Дом, на першым паверсе якога ён размешчаны, стаіць на пад'ёме вуліцы, таму магазін атрымаўся прыступкамі. У самым нізе ёсць асобны ўваход, і частка гандлёвай плошчы адгароджана. Калісьці там размяшчаўся аддзел уцэненых тавараў, потым яшчэ нешта, а цяпер прытуліўся камерцыйна-камісійны магазін таварыства з абмежаванай адказнасцю «Трэйдынт Лтд» — звычайны, як кажуць, «камок».

Прычым жа тут цешчы і зяці, з якіх пачалася размова? А прытым, што дырэктарам АГП «Богатырь» (які ўжо не магазін, а арэндна-гандлёвае прадпрыемства) з'яўляецца менавіта цешча, Мількевіч Галіна Сямёнаўна, а дырэктарам «Трэйдынт Лтд» — зяць, Шаблінскі Уладзімір Васільевіч. Гэткі сямейна-камерцыйны тандэм.

Дарэчы, у магазіне ёсць і свой камерцыйна-камісійны аддзел. Навошта ж, здаецца, яшчэ адзін, зяцёў? Толькі каб роднаму чалавечку работу даць ва ўмовах растучага беспрацоўя? Не зусім. Праз свой «камок» цэнтралізавана атрыманы з базы тавар з «накруткай» не прадасі, а праз зяцеў — калі ласка.

Вось накладная № 01085 ад 16.09.92 г. Згодна з ёй АГП «Богатырь» адпушчана ТАА «Трэйдынт Лтд» партыя абутку:

валёнкі мужчынскія — 20 пар;
боты мужчынскія зімовыя — 50 пар па 1.560 рублёў;
боты жаночыя — 40 пар па 1.440 рублёў;
туфлі жаночыя — 20 пар па 480 рублёў;
паўчаравікі мужчынскія — 25 пар па 840 рублёў;
боты ПВХ — 10 пар па 404 рублі;
боты гумавыя жаночыя — 10 пар па 162 рублі.

Лішні быў гэты абутак у магазіне? Наўрад ці. Я прайшоўся па яго гандлёвай зале, паглядзеў. Там, дзе раней была толькі секцыя жаночага абутку, цяпер размясціліся і жаночы, і мужчынскі аддзелы. І ў абодвух асартымент надзвычай сціплы. У «Трэйдынт Лтд» — куды лепшы. Цэны, праўда, таксама.

Праз зяцеў «камок» за вышэйпералічаны тавар можна смела браць утрая. А можна яго і ў Польшчу, скажам, звезці. Таксама «навар» нядрэнны. АГП «Богатырь» так рабіць не можа, а недзяржаўная структура ТАА «Трэйдынт Лтд» — лёгка.

Узнікае пытанне, ці мае права на жыццё гэты «сямейны падрад» з пункту гледжання законнасці? Але гэта залежыць ад таго, з якога боку глядзець.

АГП «Богатырь» заключала з упраўленнем гандлю Мінгарвыканкома гаспадарчы дагавор арэнды, у п. 3.3 якога арандатар чорным па беламу абавязваецца: «Забяспечваць **рознічны** гандаль таварамі з высокім узроўнем абслугоўвання, ажыццяўляць іншую эканамічную дзейнасць, вызначаную статутам арандатара». Заўважым, што гаворка тут ідзе менавіта пра рознічны, а не аптовы гандаль (пра абяцанне высокага ўзроўню абслугоўвання наогул прамаўчым).

Але дагавор арэнды падпісаны 7 мая 1992 года, а ўжо 26 мая АГП «Богатырь» рэгіструе ў Фрунзенскім райвыканкоме свой статут, дзе ў п. 2.2.1. закладзена ўжо «арганізацыя **рознічнага і аптовага** гандлю айчыннымі і імпартнымі таварамі».

Цікава, ці чыталі гэты статут у выканкоме, а калі чыталі, то ці зразумелі, што канкрэтна ўзаконьваюць сваім подпісам?

Такім чынам, цешча і зяць плённа працуюць поплеч і адчуваюць сябе выдатна. І ўжо цяжка правесці дакладную мяжу паміж іх гандлёвымі прадпрыемствамі. Скажам, ТАА «Трэйдынт Лтд» трымае на складах АГП «Богатырь» 156 скрынак гарэлкі «Пшанічная». Ніякіх дакументаў на арэнду складскога памяшкання пры гэтым няма і ў паміне, як, вядома ж, няма і платы за яе. Альбо яшчэ: прадаўшчыца пераходзіць з магазіна на работу ў «Трэйдынт Лтд», ужо стаіць там за прылаўкам, аднак ніякіх загадаў на гэты конт нідзе не выдаецца, у працоўнай кніжцы адпаведных запісаў не робіцца.

Нават нейкую дакументацыю цешча і зяць губляюць разам. На дзвярах аб'ява: «Просьба згубленыя дакументы АГП «Богатырь» і ТАА «Трэйдынт Лтд» вярнуць за ўзнагароджанне дырэктару ці адміністратару магазіна».

У часы так званага «застою» ўлады ўсяляк заахвочвалі стварэнне працоўных дынастый. Афіцыяльна — сталявараў, хлебаробаў, машынабудаўнікоў і іншых, неафіцыяльна—апаратнай наменклатуры і армейскага генералітэту. Кіраўнікі цяперашняй генерацыі таксама, відаць, не супраць адраджэння гэткай слаўнай традыцыі. Нават у такой далікатнай сферы, як гандаль (бо выпадак наш, на жаль, далёка не адзінкавы). Інтарэсы ж астатняй часткі насельніцтва, як і раней, не ўлічваюцца.

**Аляксандр БЯРСУДСКІ.**

